ЮРЫЮ ГАГАРЫНУ

Сын аблокаў,
Лясных ажын,
І шчаслівы з таго нядарма,
Ен любіў,
Гаварыў
І жыў
Так усмешна і легендарна.
Час і людзі горна маўчаць.
Серабрацць пачынаюць вербы.
Як хацелася пачакаць,
Як хацелася не паверыць.
Ці заўсёднай слязой сухой
Лёс усмешлівым наканован?
Як пакінутае каноэ,
Ты цяпер сірата, «Усход»...
І наноў пачынае днець.
Жарабя мураву камечыць.
І у Гжаці святла каменьчык
Перазвоньваецца на дне...

## НА ДЗІВА МАЛАДЫЯ ДНІ...

У доўгім шуме паплавы,
І жыць, напэўна, засталося
На гэтым свеце разгалосым
Ажно да белай галавы.

Цяпер жа ў веку маладым
Ты любіш май і гулкі колер,
Вясёлка з промня і вады
Яго раскручвае на колах.

Ты маеш спадчынны надзел:
Жыццё над Нёманам, і човен,
І спадзяванку, што праз дзень
Усё паўторыцца нанова.

На дзіва маладыя дні
У краі сонечным і росным.
І ты не думаеш ані,
Што і памерці тут зайздросна.

## КАМСАМОЛУ

Радзіму змоладу бярог.
З-пад зор асенніх родам.
Садзіў ён дрэвы ля дарог.
Вадзіў наперад роты.

Шынелак шэрага сукна
Не раз крывёй барвовеў...
...Злятала зорка звысака
На помнік у дуброве.

На лёс нідзе не наракаў.
І з поля. ці квартала
Сыноў старэйшая рука,
Нібы раўню, вітала.

## ДАРОГА У БУДАПЕШТ

Іду да цябе начамі,
такімі ж,
як два дзесяцігоддзі
назад,
поўнымі трывогі,
чакання...
Карпаты мне сцелюць
пасцель —
высокая хмара
пад голаў.
Толькі спаць не магу:
дваццаць год са сваёй
стараны нясу я ваду хлопцам —
вяскоўцам маім...
Яны і зараз ляжаць
з перасохлымі вуснамі
на цэгле халоднай, бітай
побач з чырвоным Дунаем...
Я іду ў Будапешт...

## ЖЫЦЦЁ

Нясло на далоні яно
Спачатку
Коніка сіняга,
Потым зялёнага матылька
І, нарэшце,
Чорную зброю...
Толькі конікі хаваліся
У траве,
Матылькі —
У дрыготкай смузе
І
Нерухома ляжала
Зброя...

## НА ЗЯМЛІ

Ягад высыпала — анігадкі!
Ну, а мне хоць гады ў рады
Паваліцца на мох руды —
І споўняцца ўсе загадкі.

і за спіцаю самалёта,
Што разблытвае твой клубок,
Аблачынка,
Сачу здалёк...
Як ніколі —
Так жыць ахвота.

# У ЖНІВО

Цяля вільготнай пысай
Траву сабе скубе.
Сядзіць цалюткі дзень
Ў канторы пісар.

Калгаснае праўленне
Пустое, як царква.
І тэлефоны два,
І звоняць паралельна.

У спелае жніво
Так спешна камбайнерам.
Гарачы ў жніўня нораў
Ды з сілаю жывой.

А ручаю адгул
У збранзавелых вольхах.
Над жнеярамі вольны
Аблокаў белы гул.

У цень ідзе палудзень,
Мурзаты, малады.
Не мецъ жа нам бяды —
Былі б жыты і людзі!

## ЦАГЕЛЬНЯ

Як люлькаю, цагельня
Дыміць каторы год.
Чырвоны там агонь,
Вакол зялёны ельнік.

Выдатнага замесу
Цагліна, як адна.
І ў штабель пад навесам
Складаецца яна.

Мы раненька прыедзем,
І дзесяць тысяч штук
Вязуць машыны ледзьве
Па бруку на шашу.

Мы хату пабудуем
І здзівімся — ого!
Цяпер мы не бядуем —
Есць чым. І ёсць з чаго.

Для радасці знарок
Звініць на сонцы цэгла.
Яна так роўна легла
Пад роўненькі шнурок.

Мы радыя, і вельмі —
Спрыцён стаіць дамок.
Над ім, як над цагельняй,
Аднолькавы дымок.

## ЛЯСНІК І ЛЕСНІЧЫХА

У замеці дуброў
Пад воблакам вячыстым
Жывуць багі дабра —
Ляснік і лесьнічыха.
Драўлянае вядро
І ломкі лёд ля студні.
Складанка смольных дроў
Ратунак ад прастуды.
Да возера хады
Не больш,
Як паўмінуты.
Палонка стыне смутна.
Сівеюць халады.
Маліся за пчалу,
І лесьнічаткам солад.
Гуменнаму чалу,
Напэўна, пяць па сорак.
Ці спудзяцца ласі,
Каньком дарога чмыхне,

У лес ідзе ляснік,
А следам — лесьнічыха.
Іх доўга не відаць.
Чаму?
Не нам вядома.
А леснікі, відаць,
Аматары вандровак.
Ім слухаць смутны гул
Смалы, як перламутра.
На плечы, бы вагу,
Кладзецца эпас мудры.
Спакойны век ці бор?
Паломная прасека.
І запрашэнне сесці
Пры чарцы на чабор.
Сюды па гурбах лез,
Каб жыць і не лячыцца.
Спагадны свет і лес,
Ляснік і леснічыха.

## РОДНАЕ

А трыснягам па пахі —
Самотныя снягі.
Ад сена і тугі
Снягі радзімай пахнуць.

* * *

***Памяці***
***Лёні Якубавіча***

Хацелася завеям
Гуляць за медны грош.
Жылося нам не горш,
Каб сумна, то не вельмі.

Ў аснежанай дзяржаве
Вазілі пошту днём
У торбах з моцным дном
Па вёсках і заставах.

І коні, як вядома,
Спяшаліся на шлях,
Каб змораным пасля —
Ды завідна дадому.

На ласкавы агеньчык
Прасілася да нас
І гутарка пра час,
Вячэра паміж нечым.

Зіма спрыяла душам
І жыту на палях.
Задумы на пасля
Хавала пад падушку.

І хай мяне бог крые,
Што маю на руках
Не права наракаць,
А твой дазвол на крылы.

Цяжкі трывожыць роздум.
Зіма і лістабой.
Радзіма над табой
Калючаю бярозай.

МАРАЗЫ

Пад зорамі вятроў
Залее след заечы,
Над мёрзлай студняй енчыць
Вандроўнае вядро.

На доме дымны дах.
Шкада дрыготкіх яблынь,
Як сэрца, б’ецца слаба
Падлёдная вада.

І дорага дарога
Каню і вазаку.
І маладзік-нябога
Вісіць на валаску...

## АД’ЕЗД

Калі вялікая зіма
Запас рабіла на прагалах,
Яна ж і коней запрагала
У санкі лёгкія сама.

Згарэць на гурбе снегіру,
Звінець снягам ля сельсавета,
Як пад дугою запаветнай
Званок уздымецца ўгару.

Запаміналася дэталь:
Бы цэбар, гулкае надвор'е.
Як свісне полаз у Задвор’і,
То свіст да Зэльвы далятаў.

Кажух дублёны ці рыбак?
На азярыне стогне доўбня.
І да таго усё падобна,
Што рыбе прыйдзецца рыдаць.

Між тым, спяшаюцца дымкі.
І цёпла боціку пад сенам.
І ты, зацішная, прысела,
Каб чуць на станцыі гудкі.

Ляціць зара пад капыты.
Ідуць прысады не па следу.
Зусім не хочацца, каб ты
Засумавала напаследак.

## СТАНЦЫЯ

Разгойданая завея
Сады і сляды загоіць.
Крывінкай дрыжыць у вене
Імя тваё дарагое.

А рукавічкі здымала
Спякотліва і лагодна.
Так юна губам вільготным.
А часу ізноў замала.

А разам нам толькі сорак.
Дыханнем цябе шукаю.
І дзякуй табе за сорам,
І дзякуй, што ты такая.

...А станцыя астывае,
Заснежана і забыта.
Як смутку свайго набытак,
Я рукі твае трымаю...

* * *

Давай забудзем крыўды,
Каб сталася латвей.
Наш след на цёплай крызе
Растане у Літве.

Ты толькі загадаеш,—
Над роднай стараной
Хмурынку перыной
На шчасце загайдае.

* * *

Апошні дзень зімы,
Вятры — нібы на ліха.
Адны з табою мы.
Нам ціха,
                ціха,
                        ціха.
Турботны родны дом
Шчаслівых не пабудзіць.
Гадзіннік больш не будзе
Над намі ўладаром.
Маладзіком з дубровы
Твае узыдуць бровы.

## РАЁННАЯ ШАША

На скрыжаванні слізкі лёд,
Машыны,
Людзі,
Сані.
І ля дарогі самі
Мядзведзі дзеляць мёд.
Не знаць ніколі мішкам,
Дзе буралом, дзе шышкі.
Ці лета.
Ці зіма —
Міжусобная вайна!

* * *

На радасць жаўруковай дзюбе
Наноў ачуньвае трава.
Пралескі ранняй чысты цюбік
Вазьмі, як лекі, патрымай.

І гнутка цягнецца лаза,
Каб стаць увосень абручамі.
І сокі ў дрэве забрынчалі,
Каб сінь пупышкамі лізаць.

Дымку над хатай лёгка віцца,
Каб адчуваць прасторы смак.
Жанкі. І кожная сама
Святлей за ранішнюю Світязь.

Душа з пагодаю у згодзе.
Дарога ў трубныя лясы.
Неурадлівай паласы
Не існавала у прыродзе.

* * *

Варушыцца вада —
За шыбаю дажджынкі.
Калі яшчэ дажынкі —
Зажынкаў не відаць.

І вывадак шпачыны
Не вучыцца лятаць.
Зялёная Літва
Заснула ў канюшыне.

Дрыготкая пара
Для маладога семя.
І халадком у сені
Пацягне са двара.

І колас торыць выйсце
Праз трубку на святло.
І ў зеляніне слоў
Юнее кожны лісцік.

## РАНАК

Як вочы прадзяруць дразды
Рыпіць трава ля рэчкі.
І першародныя тады
Дзяўчаты,
Дзеці,
Рэчы.

Бярэ на повад свёкар
Цыбатае цяля.
Яно глядзіць здаля
Сваім тужлівым вокам.

Ладкуецца прамень,
І кот лагодзіць лапу.
Чутно,
Як клямка ляпне...
А сну ўсё менш і менш.

* * *

У музейны заглядалі куфар —
Святое лежва таямніц.
Ля гедымінскіх камяніц
З літвінам разам бралі куфаль.

І чулі, як радок шасціць
У лесе памяці дрымотна,
І кроў у жылах шалясціць.
Пчала кашэліцца над мёдам.

Ды ўпершыню за чвэрць стагоддзя
Задачку трэба вырашаць —
Ці хадзіць босаю раса,
Ці то з абцасікам па модзе?

* * *

У млынара ў запасе
Развага і спакой.
Яны пры ім спакон.
Як коні на папасе.

Заплешча аб фундамент
Рыбацкая вада,
За вуды — і гайда
Па вечаровай дамбе.

Дашчанаму насцілу
Да нас не прывыкаць.
І нам не наракаць,
На карасёў у іле.

Не важна, што не клюне,
А важна, што ля дрэў
Адзін з нас проста юны.
Другі — за свет мудрэй.

Чакаем неспадзеўкі.
Па некалькі гадзін
Пакурваем, глядзім,
Бо, дзякаваць, нядзелька.

Маўчым ані варожа.
І што чутно, і дзе —
Варожым на вадзе,
Ці на вадзе варожым?..

## НАРАЧАНСКАЯ РЫБА

Нарачанскай рыбе цесна.
Мокра невадам.
Нават так не ходзіць цеста,
Як цяпер вада.

Робы ў рыбакоў бугром,
Спіны узмакрэлі.
Не разлучыцца з багром
Старшыня арцелі.

І з кармы усім відно —
Невад цяжкі вісне.
І маланка над вадой
Сазанова бліснe.

Паглядзі адзіны раз:
На азёрнай тоні
Рыба гойдае баркас
І ад тлушчу стогне.

## У ГЛУШЫ

Шчаслівы, як цыган,
Што краў у Зэльве коней,
Ці, як заезджы комік,
(На іх расце цана!)

Брыдзеш сабе далёка
Ад тлуму, мітусні.
Захочаш — загалёкай,
Захочаш — дык засні.

І так прыдатка ў ботах,
І не чутно зязюль.
За блізкі свет адсюль
Дарогі,
Дом,
Работа.

Прырода ў жалуды
Заклала час і кроны.

І лесу усё роўна,
Адкуль ты?
Чый?
Куды?

## СТАРЫ ЛЯСНІК

У лекавыя травы
Да логваў і лагчын
Ішоў ляснік рухавы
Між сосен і ляшчын.
У ботах і са стрэльбай,
Зусім не малады.
І я яго сустрэў быў
Ля чыстае вады.
Вавёркі,
і казюркі,
І кожная нара,
Дымок знаёмай люлькі
Абнюхвалі не раз.
Ішоў ляснік рухавы —
Маршчынкі на ілбе.
І думаў сам сабе
Пра лесавыя справы.
Дзялянка і падсочка
Яму відны здаля.

І як абух адскокне
Ад соннага ствала.
Стары прыцішыць крокі,
Натомлены, відаць.
І чутна, як звіняць
Смалы цяжкія кроплі.
Як леснікова цэшка —
Каменьчык у вадзе.
Ляснік глядзіць на сцежку,
А тая ўглыб вядзе.
Налева ці направа
Па воўчым гушчары,
З усмешкай зноў стары
Ідзе ляснік рухава.
І побач цень у цень
За ім —
Былыя леты...
І сосны запаветна
Над ім трымаюць дзень.

* * *

А нас ад злога вока
Схавала азярко.
І рэха крок у крок
Сюды не валаклося.

У затоцы асачынай
Зацішак — ні шу-шу,
Мы месца асачылі,
Каб быць душа ў душу.

Пясчынкі для загару
І рады бераг даць,
Каб нам ласкавей стаць
І думкамі, і з твару.

Няма куды спяшацца,
Схілюся над табой,
Над цішаю зямной,—
У самым цэнтры шчасця.

## ГОРЫ

У горы дарога не простая.
Туды не насцелеш гаць.
І следам на снежнай просціне
Тугу, нібы скарб, цягаць.

А стромы, як катапульты —
Вынесе увышыню...
На чорнай зямлі пакута
І радасць упершыню.

## ДАДОМУ

Памажнелы і памужнелы,
Атрасаеш дарогу з ног.
Зноў заручаны з навізной,
Як і з песняй, што склалі жнеі.
Стомы каліва на брыве,
Сонна просяцца вейкі долу.
Па іржэўніку, па траве
Як мага, як хутчэй —
Дадому.

АЎТАСТРАДА

І распластаўшыся, дарога
Ляціць у дрэвы, як тунель.
А сам куды —
Вядома богу
І нават крыху сатане.
І разлятаюцца прысады.
Сланечнік,
Фарбы,
Пост ГАІ.
Мы ў найраднейшыя гаі
Сябе з карэннем перасадзім.
І тут жа даўняя развага
Пра сувязь зоркі і травы
На міг прыйдзе да галавы —
Забудзеш крыўды і знявагі.
Ды што там дробязі і страты,
Калі пад бронзаю кляноў
Цябе, як пропуск, на клінок
Наніжа з ходу аўтастрада.

* * *

Намахляваў прагноз.
Пагода — па заказу!
Куды вязе, не кажа
Вясёлы цеплавоз.

І толькі бачыш следам,
Як ветлая рука
Махне з грузавіка
Або веласіпеда.

А маці за дачкою
Упрыхваткі сачы...
Мільгаюць касачы
Да самых Радашковіч.

Знаёмай незнаёмцы
Ад сілы...
— Колькі год?
— Я замужам...

— Ого!
— Вось бачыце пярсцёнак...
Вярэдліва хітрынка
Падражніць з-пад брыва.
Сядзіш, а галава...
Зялёнае...
Прыпынак...

І нешта прашаптала
Вярста ці можа сто?..
А цеплавозу што? —
Лічу, як школьнік, шпалы.

## СКАЗ ПРА ПІВА

У падполлі стогне піва.
Стогне ўночы, днём.
Кажуць людзі: — Што за дзіва
Над дубовым дном?

Толькі піву не да казак —
Трэба ўверх расці,
І яно з натугай кажа:
— Ду-у-бе, адпусці-і!

Той жа клёпкамі сапе,
Тоўсты, крутабокі,
і падумвае сабе:
— Папусціся толькі...
Піва зноў з кутка у кут:
— Пекла — не кадушка,
Покуль выхадзішся тут,
Вымеш богу душу.

Дуб жа — ведама усім —
Быў ад дурняў дурань,
Покуль думаў, дык зусім
Асмяялі куры.

І пад гэты вось шумок,
Ах, ядроны корань,
Піва корку цюк у бок —
І пад бэльку корак!

І пайшло па свеце піва —
Гоман ноччу, днём.
Кажуць людзі:
— Вось дык дзіва
Пад дубовым дном!

## ДНЁМ

Хмялее поўдзень і лаза.
І лезуць авадні пад коней.
Вішнёвы сок на падваконні.
Буслы вартуюць край і комін.
Сасмяглыя цабры ляжаць.

І травы дыхаюць прынадна.
Касы размашыстай улада.
Жанчына маладога веку
Шчасліва дню і чалавеку.

## ПАХ ТРАВЫ

«Я на ўсё жыццё запомніў пах, што ўварваўся да нас у карабель, калі мы толькі адчынілі люк пасля пасадкі. Гэта быў пах травы...»

***Віталь Севасцьянаў,***
***лётчык-касманаўт СССР***

Аеру тонкі частакол.
Травы зялёнае паўстанне,
Дзе краска кожная прыўстала,
Каб азірнуцца навакол.

І ціша ў свеце і ў душы.
Стаіць пчала над канюшынай.
І толькі грузныя машыны
Губляюць сена на шашы.

Ля ручая шасціць жарства.
І бляск касы у вока коле.
І ладзіць трэснутае кола
На лузе гразкая вярста.

І пачынае застываць
Густы, як дзёгаць, сенны водар.
Хоць налівай яго у вёдры,
Каб да калядаў захаваць.

Каб потым двор,
Не раз апеты,
І навакольныя снягі
Запахлі гэтак, як лугі
У першай палавіне лета.

А пах травы —
Што не абняць.
Пра гэта словы касманаўта,
Што без яго было не надта,
Хоць зорку здолеў спавіваць.

## ЛУГ

Без клопату каленкам.
Як матылькам, ляцець
І ў ручаі маленькім
Свой воблік паглядзець.
На сёмы дзень, як лета
Святкуе першы ўкос.
Лілеі, як з балета
Танцорачкі без кос.
Шаснаццаць год, і шчасце
Цябе не абміне.
Каб столькі зняць з мяне,
Дык будзе толькі частка.
Ды пра узрост ці трэба
Без дай прычыны ныць?
Ірвецца думкі ніць...
Дзяўчо.
Прастора.
Неба.

ЛЕТНІЯ САДЫ

Садам у халадку
Не боязна ад цемры.
Будан — хоць і не церам
Ды ў радасць хадаку.

Застрэшша, не шуршы —
Спачынкам вераб'іным.
Ля яблыні драбіна,
Для яблыкаў — кашы.

А початы галінам
Паволі ацішэць.
А яблыкам цяжэць,
Каб зерні загулі нам.

Вартаўнікам старэць —
Збылася квецень маю.
Сады і людзі маюць
Свой спосаб памудрэць.

* * *

Запыніцца сонца ў травах:
Такі у яго статут.
Давай застанемся тут,
Здабыўшы на лета права.

Прабуем на смак сцябло,
Дзе гукамі свет затоплен.
Так блізенька да аблок,
Далёка дамоў затое.

Салодкі у нас дэсант —
Ад красак сарвацца ў неба,
Шчакою шчаку дастаць,
Нічога нам больш не трэба.

Ні вечнасці, ні бяды...
Ні шуму твайго, стагоддзе...
Не ведалі мы тады,
Што лета было на зыходзе.

* * *

Сёння скончыцца лета
Для лілеяў і школ.
І на школьнае шкло
Восень латку налепіць.

Стане глуха на рэках.
Пасвятлее ў душы.
Даўні сум варушыць
Будзе рэха на рэйках.

Стане думацца лепей.
Дым атуліць зару.
Ціха-ціха пяру —
Сёння скончыцца лета...

## ПАЎНАЛЕЦЦЕ

Паўналецце світала,
І звінела раса.
Як дзяўчынка расла?
Што вяргіням шаптала

І хіліўся да вокан
Маладзенькі прамень.
Ці не ў знак перамен
Растрывожана вока?

Курапатчыным полем
Ты па кветках бяжыш.
Ты стаіш на мяжы
Маёй ласкі і болю.

Курапатчыным полем
Травы недзе плывуць.
А закінь галаву —
Сінь у вочы заколе.

Фарбы. Неба. Альбо
Размалёваны вокны.
І зажураным вокам
Я сачу за табой...

* * *

Нам цешыцца, як дзецям.
Світальна сумаваць.
У плашчык мой адзета
Паменшаеш сама.

Дажджы ідуць у цемень
Пагоду сустракаць.
Мне перынкай рука
Апусціцца на цемя.

Аддам, даверу поўны,
Палону галаву.
І недзе адплыву
У тваіх далоняў, чоўне...

## НЯДЗЕЛЬКА

Смуглее ў сне загар.
Яснее ціха локаць.
Тулю таемны твар.
Цалую лёгкі локан.

Чырвоная нядзелька.
А раніца — гультай —
Не тупаць, не гартаць
Шчаслівай безнадзейна.

Спакой празрыстых вокам.
Запомню кожны рух.
Маіх чакаеш рук
І светла жмурыш вока.

## СВЯТА ДЗЯДОЎ

Заснуць у гнёздах восам,
Старым садам стаяць.
За гаспадыню восень —
Багата на сталах.
Дзяды.
Чакае свята
Усіх,
Каго няма.
А дзеду звычны ватнік
З-пад бэлькі не здымаць...
За рамкаю папера,
А там —
Слупок імён...
Як у нямым кіно,
Адчыніць вечар дзверы...
Каб разам сёння селі
На покуць жартаваць
І сваццяў частаваць
Нязбытныя вяселлі.

Каб жыць — не нахваліцца,
Забыць пра нелады.
І светлым маладым
Усё цясней хіліцца,
імёны, як паданні.
Заціхлі крокі.
Ціш.
І слухаеш ці сніш,
Як лісце ападае?

* * *

Не магу аніяк забыцца
У аддаленай старане.
Ты заснула ужо ці не?
Што табе, дарагая, сніцца?

Хто цябе уначы прыгорне
Ад вятроў,
Галасоў
І змоў?
На стале засынаю зноў —
А здаецца, заснуў у Гродне.

* * *

Даруй жа,
Восень, за уцёкі,
Хоць іх і сам наканаваў
Пад небам тым,
Дзе ў дзюбах цёплых
Трымцела выраю канва.
Хацеў прыстаць пад лісце лета,
На тых жалезных рубяжах,
Дзе пад ствtotalамі перагрэта
І насцярожана мяжа.
Каля дзяржаўнае таможні,
Над строем вышак вартавых
Зусім не пахла горкай пожняй
З радзімых вёсак тылавых.
А недзе там,
У доўгай далі,
На маладзечанскіх пуцях,
Вятры вясёлыя спявалі
Адпускнікамі у гасцях.

А тут —
Марудны, раным-рана
Гарбатых сопак караван
Валок праз Турцыю з Ірана
За чорнай пазухай каран.
А недзе там,
У дымнай далі,
Агонь з бульбоўніку слабеў.
Дзяцей у школу выпраўлялі
Жанкі з надзеяй пры сабе.
А тут,
Як на лязе трывогі,
На валаску ад крыку «Стой!»
Завісла провадам дарога,
Відаць, для сувязі з Масквой.
І шчанюкам заставы, мусіць,
Было зусім не ў галаве,
Што час і іх шукаць прымусіць
Не толькі радасць у траве.
І на харчах пагранатрада,
І не фатыгу перабыць,
На пару з аўтарам служыць
Радку пазначана загадам.

## ЦІШЫНЯ

Дык чаго цябе несла сюды
За паўсвету, а можа, і болей,
Каб агледзець чужыя сады.
Дакрануцца да неба, як столі?

Дык чаго цябе несла сюды
За паўсвету, а можа, і болей,
Каб падслухаць гаворку вады,
Што жыве, як шахцёр у забоях?

Там, дзе воблака робіць кругі,
У сырой заблудзіўшы цясніне,
Ці прыпомняцца, мой дарагі,
Запаветныя вербы у дыме?

Прыгадаецца сіцец ільну.
Каснічок сенакоснай касынкі,
А скала ад дрымучага сну
Ці прашэпча ледзь чутна:
— Сынку?..

Што суцішыўся, мой дарагі,
У дарозе,
Ў радку
і бяседзе?
Гэтак дома цішэюць лагі,
Калі восень бухматая едзе.
Мо журбу неўспадзеўкі сустрэў,
Стала шкода світальнае жонкі?

Тут граніца,
Як слова, як стрэл,
У чужацкія б’е перапонкі.

## ТРЫВОГА

Набракае бінт небакраю.
Чырванню набракае...

Недапісаны верш

Вочы неба зацяклі крывёй.
Разарвана цемра над граніцай.
Падае ракета па крывой,
Нібы перабіта ў паясніцы.

Ноч ступае шорсткім кавылем,
То яна ці слуп, у паласатым?
Трэба стаць на момант кавалём,
Прыкаваўшы страх да аўтамата.

Юны хлопец,
І яму адсюль
Да Басфора бліжай,
чым дахаты...
І ў падсумку, як насення, куль.
На якія час заўжды багаты.

...У Слуцкім полі каля жыта след —
Паштальён блукае у прысадах.
Ці грукоча,
Ці маўчыць Сусвет?
Пад дрыготкай зоркаю засада.

А ў «ражку» зграрнулася чарга.
Цішыні затвор, як выбух, ляпне.
Рэху доўга паўз кардон кульгаць.
Як аўчарцы з перабітай лапай.

Схаладнелых траваў лабірынт
Прыхавае шолахі няўдачы.
Глянь, зямляча,
Небакраю бінт
Набракае чырванню гарачай.

## ШЛЯХ

*Воінам-землякам*
*па Закаўказскай*
*пагранічнай акрузе*

Праз стомленую спёку
Нам ехаць дзвесце вёрст.
А ноччу ўпасці ўпокат
У сон не навырост.

На парашуце пылу
Бляднее хісткі шлях.
Рыпіць пясок, як пілы
У лесніка ў вушах.

Цяпер бы ў рэчку Проню,
Дзе з вывертам язі,
Не зломак на язык —
Дзяўчына на пароме.

І плавае адна...
Яе на вока ловіш —

Нырне на добрым слове —
І вечнасць не відна.

Устане над вадою,
Каб выціснуць касу...
То ява? Ці са сну?
У войску ты? Ці дома?

Каманда зноў: «Заводзь!» —
Як будзень пасля свята.
А міг, як з дому госць,
А што яшчэ салдату?!

ПЕСНЯ

На заставе энскай,
На застрэшку гор —
Хлопцы са Смаленска
І адзін маёр.

Там арлы гняздзяцца.
Там стаяць пасты.
Варта толькі ўзняцца —
І на небе ты.

З мармуру аблокі,
А вышэй — снягі.
І зусім далёка
Зорачка тугі.

Там арлы клякочуць
У туман густы.
Там арлы не хочуць
Пакідаць пасты.

# ІМГНЕННЕ

***(лірычны маналог)***

Усё маё жыццё здаецца мне
адным цудоўным імгненнем...

***Юрый Гагарын***

* * *

Любата звездарам —
Справы хопіць па горла.
Недзе ходзіць у Горне
Сон па позніх дварах.

Ходзіць памяць па збожжы
На расстайнай вярсце.
Ходзіць памяць...
А можа,
Так спаткацца няўсцерп?

Каб застацца адным
Пад радзімым сузор'ем.
На вясле мой сцізорык
Злічыць ночы і дні...

І да хаты вядзе
Серабро павуцінкі.
Піша ноч чарацінкай
Запавет на вадзе.

* * *

Ля збожжавага ўзмор’я
Радзіліся не гадаць.
Пусцець безнадзейна моргу,
А нам —
Каласы гайдаць.

І цінькае зноў гадзіннік,
Як зорка на дне каўша.
Паціху табе, адзінай,
Нашэптвае сон шаша.

Стаміўшыся, на вярбе
Лісткам заціхаць вячорным.
Зямля, што зялёны човен,
Калышацца хай сабе.

А нам жа у спелых травах
Надыхацца і любіць.
Мы мелі, Радзіма, права
Знайсці цябе,
А згубіць?..

Навошта тады і жыць
На гэткім нялюбым свеце?
Ні ў Зэльвенскім сельсавеце,
Ні там,
Дзе мароз чужы?

Абветраным і бялёсым
(Такія мы ўсе здавён),
Радзіма,
Аддай нам боль свой,
Як спаленай вёскі звон.

Каб юнаму беларусу
У сэрцы валошку мець,
Што радавалася на абрусах,
Дзе плача ў Хатыні медзь.

Каб верную беларуску,
Як шчасце, аберагаць,
Каб вуснамі бель пад блузкай,
Як воблачка, абаграваць.

* * *

А нехта заўсёды ныцьме;
Не чуць, як звініць азон.
Не згледзіць, як промень ніцма
Заломіцца за вазон.

Мармыча і гэтак ходзіць.
Прыслухаецца.
Глядзіць.
Прыглядваецца да паводзін
Суседавых з-за гардзін.

А недзе, дакладна ў леце,
Не ў бабіным, а сваім,
Праедзе на веласіпедзе
Ен і Сінічка з ім.

Ім трэба прастора, краскі.
І дрэва.
І птушаня.
Ім трэба ад лета ўкрасці
Акрайчык твой, цішыня.

Задыхацца, калі шыю
Смуглявую цалаваць,
Імчацца па следу шынным,
Машынам галасаваць.

Нам выпала шчасце жыць
І дзякаваць дню і зорам.
І дзякуй, што ты учора
Згадала мяне прысніць.

Ад сіні — імя Сінічка.
Закінецца галава.
Радзімка каля брыва
Пакоціцца, нібы знічка...

Цябе, каб у дрэве высеч,
Прымусіць з зямлі ляцець,

Жаноцкасць нясці у высі
І перынкаю трымцець.

...Над намі гудзе трава.
За намі ніхто не сочыць.
Як Нарач, ляціць у вочы
Без воблачка сінява.

* * *

Задумацца трэба ўмець:
Запас жа бяды не чыніць.
Няўжо ты без дай прычыны
Жартуеш са светам, смерць?

Наводзячы пад абрэз,
Прыжмурваеш звычна вока...
Падумаць —
А ў Горне бэз,
Ён ломіцца свету ў вокны.

І выядрацца дню:
Старому — клапоты ў голаў.

Малыш, як свісцёлка, голы...
Малюю
Ці, можа, сню?

Успомню, як з-за граніцы
Хацелася мне сюды —
У росныя халады
Навекі закараніцца.

І радасці электрычнасць
Свяцілася у табе,
Калі на тваім ілбе
Лічыла гады сястрычка.

І побач, за Ваўкавыскам,
Расілася рэчка Рось.
Над ёю альшэўнік рос
І толькі нядаўна высах.

І малады ж зусім.
Ад тога спалоху высах:
Не ўбачыць каб край свой выспай —
Найжудаснай з Хірасім?..

* * *

Кароткае слова Час
Не памяццю. Паміж іншым,
Ен помніць,
Як хлопец Рымша
Вадзіў жарабка ў папас.

І помніць жальбу, і здзек,
І наш абгарэлы комін,
Калі з беларускіх рэк
Хлябталі чужыя коні.

І Час, барацьбіт і сейбіт,
У выбраную з гадзін
Раскідваў у глебу семя,
Сціскаючы карабін.

І ладзіў жыллё нанова.
Любіў,
Гадаваў
І нёс.

Сярод шапатаў бяроз
Не верыў свінцовай мове.

Прыстала зямля, як сейнер.
І часу зусім няўцям,
Як соладка спіць на сене
Імгненне — яго дзіця.

* * *

Зорнаму календару
Глядзець у глыбіні мора.
Кладу на калені змору,
Сказаўшы табе: «Даруй...»

Недзе ля цыферблата
Мацаю пульс радка...
Плыве ці стаіць рака —
Фантазіі небагата?

Стомлена за небакраем
Гудам гудзе жыццё.

Месяц за хмары ўцёк,
Каб песеннікі не абакралі.

Доўга ідуць лясы.
Спяць на хаду вагоны.
Забудуцца перагоны,
Збудуцца галасы.

Секунду, а то і меней,
Сон, як пастух, брыдзе.
Чарацінка жыцця —
І М Г Н Е Н Н Е
Свеціцца на вадзе.

З М Е С Т

На белорусском языке

Юрий Владимирович Голуб

Д Р Е В О  Б У Р И

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, ул. Советская, 19.

Рэдактар І *Калеснік.* Мастак *А. Шэвераў.* Мастацкі рэдактар *Л. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Т. Сокал.* Карэктар *Л. Вайцяшэня.*

АТ 08572. Здадзена ў набор 25/XII 1972 г. Падп. да друку 12/III 1973 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 84X108 1/64. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,1. Ул.-выд. арк. 1,72. Зак. 1838. Цана 18 кап.

Друкарня «Чырвоны друкар» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, зав. Калініна. 12.

**Голуб Ю.**

Дрэва навальніцы. Лірыка. Мн. «Мастацкая літаратура». 1973.

80 с. 5000 экз., 18 к.

«Дрэва навальніцы» — другая кніга маладога паэта.

З юнацкім захапленнем піша аўтар пра непаўторную прыгажосць роднага краю, вядзе шчырую гаворку с нашым сучаснікам, якому, як і самаму паэту, выпала шчасце дбаць пра нашу будучыню.

0743-069
г-------------------103-73
М 302(05)-73

Бел 2
Г 62